Субботний дадатак

СТРАНИЦА ЗАНИМАТЕЛЬНОГО ЧТЕНИЯ

# ДАЙДЖЕСТ

● СПАДЧЫНА



Месцам правядзення фальклорных свят, народных абрадаў і гулянняў стала Белая дача ў адным з раёнаў Мінска. Прыгожы двухпавярховы асабняк з'яўляецца і выставачнай залай Беларускага інстытута праблем культуры. Пры ўдзеле Саюза майстроў народнай творчасці тут штомесяц праводзяцца разнастайныя выстаўкі.

Адна з іх, выстаўка дэкаратыўна-прыкладной творчасці юных майстроў, ужо запрасіла знатакоў народнага мастацтва. Вырабы з саломкі і льну, разьба і роспіс па дрэве, ткацтва і вязанне, кераміка і вышыўка – усе гэтыя традыцыйныя віды творчасці прадстаўлены ў экспазіцыі. І выкананы работы прафесійна, хоць іх аўтары – дзеці. А вучацца яны гэтым відам мастацтва ў Цэнтры працоўнага выхавання комплексу пазашкольнай работы „Золак". Любоў да народнай творчасці прывіваюць дзецям таленавітыя педагогі. Падрастае юная змена нашым знакамітым майстрам, і гэта радуе. А цяпер тут адкрыта выстава „Калядныя ўзоры".

НА ЗДЫМКУ: знаёмства з экспазіцыяй.

Фота Я. КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

● ЛЮДИ И ЖИВОТНЫЕ

## Лекарство от одиночества

По новым данным психологов, люди, у которых есть собака или кошка, живут в среднем на 5 лет дольше, чем те, у кого их нет.

– Мы обнаружили, что животные, в частности, собака или кошка, вызывают меньше стрессов, чем дети или внуки, и являются хорошим лекарством от одиночества, – объяснил немецкий психолог д-р Герхард Брем.

● МУЗЫКАЛЬНЫЙ САЛОН

## Вы любите его песни

Почти всегда людей по-настоящему оценивают, понимают, сколько же все-таки они сделали добра, только после их смерти. Это можно сказать и об Игоре Талькове. Конечно же, его слушали многие, многим он нравился, но лишь после смерти о нем заговорили как о человеке, оставившем значимый след в российской культуре. Много было шумихи вокруг убийства Талькова, но никто так и не докопался до истины. Репертуар Игоря был разнообразен: от грустных песен о любви до насмешливых. И в каждой из них чувствовалась огромная любовь к своей стране. В компакте „Моя любовь" представлены только песни о любви – возможно, немного грустной, но зато искренней и большой. Ведь такие песни может написать только человек с большим сердцем и открытой душой.

(„Частная собственность").

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## Вреден ли сахар?

Шведские ученые пришли к выводу, что сахар не откладывается в нашем теле в виде жира. Это настоящая революция в области физиологии питания.

Исследования показали, что в рационе людей, страдающих излишней массой тела, избыток жиров и недостаток углеводов. Если же человек уменьшит содержание жиров в своей пище, он сможет потреблять сколько угодно много углеводов без малейшей угрозы для фигуры.

Сообщение шведских ученых, безусловно, требует подтверждения в других исследовательских центрах. Однако в любой ситуации избыточное потребление жира вредно для нашего здоровья.

(„Медицинский вестник").

● ПРЕСТУПЛЕНИЕ И НАКАЗАНИЕ

## Так казнили нацистских преступников

**Многие подробности казни двенадцати главных нацистских преступников до сих пор остаются неизвестными широкой публике.**

Приговоренные к повешению международным военным трибуналом подали в Контрольный совет прошение о помиловании или хотя бы об изменении способа казни. И в том, и в другом им было отказано.

Для казни соорудили эшафоты с виселицами и люком. Спецкомиссия приняла решение, что последнее слово приговоренные могут произнести лишь с петлей на шее. Главного экзекутора выписали из США – это был сержант Джон Вуд, который специально для этого случая изготовил петлю с 13 узлами. 15 октября 1945 года в спортзале нюрнбергской тюрьмы установили виселицы. Спецкомиссия опробовала их посредством 200-килограммовой болванки.

На казни присутствовали военные, врачи, священники, журналисты – всего 42 человека. Длилась казнь 3 часа. Тела извлекали из петли лишь после того, как эксперты констатировали смерть. На место казни был принесен и труп отравившегося ядом Геринга. После экзекуции тела казненных положили в ящики вместе с веревками и мешками. Затем останки казненных тайно перевезли в Мюнхен и сожгли в местном крематории. Только один работник крематория знал, чьи это тела. Остальным сказали, что это жертвы автокатастрофы. Пепел предъявили членам комиссии, и те постановили высыпать его в реку Изару в только им известном месте.

А. ЗМИЕВА.

(РИД – по материалам зарубежной прессы).

● ИХ НРАВЫ

## Редкостное постоянство

Жители французского города Элинэ-Шампьетре решили переизбрать своего 89-летнего мэра герцога Франсуа де Нуайе, занимающего эту должность уже 63 года, на новый срок.

(„Малая газета").

● СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

## Комиссар любви

„Я хочу быть свободным и иметь покой. Я не могу больше слышать детские крики и играть роль примерного отца семейства!" С этими словами Микеле Плачидо, незабвенный комиссар Катани, простился со своей женой Симонеттой, с которой прожил 15 лет, и раскрыл объятия юной, свободной и никому не известной девушке 23 лет, некой Монике Боно.

И как же это могло случиться, что, дожив до 49 лет, настоящий охотник за мафией на экране и за женщинами в жизни в этот раз так лопухнулся... Как только молодые были объявлены мужем и женой, Моника, мило улыбаясь, сообщила новоиспеченному супругу, что у нее двое детей: 2 и 5 лет.

Всевидящие журналисты не смогли прочитать по губам, что же он на это ответил. Но для них Микеле Плачидо сообщил, что любит свою новую жену и согласен тянуть эту лямку. Слова „покой" и „свобода" не упоминались.

(„Свободные новости плюс").

● СЕНСАЦИЯ

## Почтальонша носит на голове громоотвод

Молния попала в почтальоншу Барбару Бренлоб, когда она разносила почту, но теперь Барбара уверена, что такого больше никогда не произойдет, потому что теперь она носит на себе портативный громоотвод!

Удивительная техническая новинка состоит из кусочка металла с антенной, который носят на голове, и металлических проводов, сконструированных так, чтобы огромной силы электрический заряд от молнии пропускать через обувь в землю. Невероятно, но он работает.

– Прошлым летом молния дважды попала в меня, но не опалила ни волоска, – говорит Барбара, 42, разведенная, разносящая почту в южном районе Чикаго. – Люди смотрят на меня с улыбкой, но я не обращаю внимания. Я не хочу больше жить в страхе – теперь я могу спокойно делать свою работу, не волнуясь о том, что могу умереть во время грозы.

Три года назад Барбару чуть не убило молнией, когда она во время грозы шла по улице. В тяжелом состоянии ее доставили в больницу, в течение 4 месяцев она не могла работать и нуждалась в физиотерапевтическом лечении, чтобы снова ходить.

Барбара признает, что была куском нервов, когда снова приступила к работе, потому что постоянно боялась попасть в грозу. Если шел дождь, она оставалась в помещении, и клиенты жаловались, что почту им приносят слишком поздно.

– На работе я почти все время провожу на улице, разнося почту от дома к дому, – говорит она. – И всякий раз, когда начинается дождь, меня охватывает приступ волнения. Приятель предложил сделать мне громоотвод. Я пользуюсь им с 1991 года.

Барбара говорит, что она стала чувствовать себя гораздо спокойнее с тех пор, когда впервые надела это приспособление, но только после того, как в нее дважды попадала молния прошлым летом, она поняла, что это действительно надежная и верная защита.

– Я была на улице во время грозы и бум! Дважды молния попала в мой громоотвод, – вспоминает она. – Я почувствовала шипение, но заряд прошел вниз по моему телу не задев меня. Земля, на которой я стояла, была вся выжжена, а мне хоть бы что. Сейчас и другие почтальоны заказывают такие же громоотводы. Я думаю, что их должен иметь каждый, кто работает на улице.

(По материалам зарубежной печати).

● КРИМИНАЛЬНЫЙ ФОН

## Теряйте деньги в Пекине!

Пекинский таксист вернул москвичке Оле Н. 255 тысяч юаней (примерно 30 тысяч долларов), забытые ею на сиденье автомобиля.

Россиянка, прибывшая в Пекин с челночной миссией, переезжая от торгового центра „Сайтэ" к гостинице „Житань", оставила в такси весь свой оборотный капитал – кофр, набитый стоюаневыми банкнотами. Оля спохватилась лишь через час, а уже через несколько минут после ее звонка оператор „горячей линии" пекинского такси сообщила находящейся в полуобморочном состоянии россиянке, что ее деньги найдены и целы.

Приятное событие последовало за целой чередой краж, жертвами которых стали здесь наши челночники. Высказывают предположение, что водитель такси попросту испугался суммы, которая равна пожизненному доходу среднего китайского крестьянина.

(„Детективная газета").

